# Samapomach Samaromach

**Беларуская кооперацыйна-гаспадарчая часопісь**

Год II. | Вільня, Сьнежань 1933 г. | № 14.

Хай злыдні над намі,
скрыгочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой
край,
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй,
засявай!..

ЯНКА КУПАЛА.



Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомаччу.

Джордж РЭССЭЛЬ.
(Ірляндзец).



# Зьмест „Самапомачы“ за 1933 г.

Samapomač

BIEŁARUSKAJA KOOPERATYŬNA-HASPADARČAJA ČASOPIŚ.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

Самапомач

| Hod II. | Vilnia, Śniežań 1933 h. | Nr 14 (17). |
|---|---|---|

## СЛОЎЦА ПРАЎДЫ.

„Самапомач“ пад такой ужо мусіць зоркай радзілася, каб не даваць супакою сваім чытачом навет і ў сьвяткі. Зрываем з традыцыяй выгодных сьвяточных дрымотаў між іншым і дзеля таго, што гэткія сьвяточныя тэмы найчасьцей праходзяць бясьследна. А мы маем для сваіх паважаных чытачоў, знаёмых і супрацоўнікаў пры канцы працоўнага году сказаць не адно і сказаць так, каб хутка не забываліся. Усяго ня сьпішаш і на валовай скуры. Але некаторыя факты аж просяцца, каб іх увекавечніць на паперы. Адным гэта хай паслужа як скромная адплата за іхную гадавую стараннасьць, ахвярнасьць і працу, другія хай засаромяцца сваіх учынкаў, а ўсе разам хай на хвільку прызадумаюцца аб тым, што і хто іх можа спаткаць на шляху гэтак званай грамадзкай працы ў будучыні. Усім гэта не зашкодзіць.

Год — кароткі здаецца час. А колькі людзей перасунулася прад нашай скромнай „Самапомаччу“? — старэйшых і малодшых, мужчынаў і жанчынаў, вучоных і простых, з стажам працы за сабой і толькі што пачынаючых, баязьлівых і адважных, а перадусім людзей чэсных і „хітрых д.....!“...—перакананых аб сабе, што праглынулі ўсю „мудрасьць сьвету“. З кім з іх у будучым годзе яшчэ сустрэнемся і з кім разыйдземся?

Кожны спатканы згаджаецца, што часы сягоньня цяжкія, кожны болей ці меней чуў аб тым, што заграніцай аднак і сягоньня людзі жывуць „багацей і лепей“. Але папрабуй даведацца ў нашага чалавека, чаму „людзям“ жывецца лепш, дык пачуеш адказ „о, заграніца вучоная, заграніца багатая“. А ці-ж гэту **навуку** і гэта **багацтва** для заграніцы хто даў, ці цяпер дае? Не! Усё гэта **трэба браць, трэба здабываць**, а перадусім трэба гэтага **хацець!**

А ў нас што? За надта любім чакаць на манну з неба, тлумачыцца „палітычнымі абставінамі“ і наракаць... на ўсіх. Наш чалавек — ня кожны! — яшчэ да сягоньня быццам і горнецца да асьветы, але так, каб яна, барані Божа, не вымагала ад яго нейкага труду, нейкіх коштаў; „хацеў-бы“ даведацца, як людзі жывуць на сьвеце, „хацеў-бы“ нават прачытаць кніжку, газэту — але... дармовую; „хацеў-бы“ нешта пабачыць, нешта пачуць— але так, каб гэта яму хто прынёс „на лапаце...“ А навет калі хто і прынясе, дык не адзін робіць такое ўражаньне, як-бы рабіў каму вялікую ласку, што прынесенае прымае. І так у бесканечнасьць!.. О, не! Покуль усё коціцца дагэтуляшнім шляхам, покуль усё наша імкненьне да паправы свайго быту будзе агранічвацца да зайздроснага толькі спазіраньня на чужое дабро і да ахвоты гэта дабро заўладаць, або ім падзяліцца, пакуль не навучымся для гэтага дабра самі працаваць і цярпець, датуль аб праўдзівым дабрабыце ня можам і думаць.. Прыродныя-ж варункі (клімат, грунты) ў нас ня горшыя ад краёў іншых, а нават далёка лепшыя; а што гэтыя варункі дагэтуль ня выкарыстаны — віна ў гэтым і наша!

Чаму гэтак дзеецца? Ці наш чалавек сапраўды ўжо такі гультай? Не! Працуе ён шмат, але не ўпапад, бесплянова, расьцярушана. І таму хутка выбіваецца з сіл і вельмі рад настаўляе вуха на ўсякія зманныя патураньні з-боку; а слабейшыя натуры дык і проста палююць на ўсякіх бясчэсных перакупшчыкаў людзкіх душ: няшчасныя гэта натуры!

Да гэтага бязрадаснага стану нямала спрычынілася і наша радзімая інтэлігенская (але не інтэлігентная!) дэмагогія, якая шукала і дагэтуль шукае апоры ў людзкой наіўнасьці, паводле прыказкі „дуракоў на наш век хопіць“. — Другім—ня менш шкодным— інтэлігенскім грэхам ёсьць мяшаньне прыватных спраў з грамадзкімі. Часта бывае гэтак: двое ці больш людзей працуючых разам, раптам пасвараіцца за прыватныя справы і ўжо перастаюць працаваць для дагэтуляшняй справы грамадзкай і яна абрываецца. Слушна? Не! Прывата — прыватай, а справа мусіць ісьці далей, а ад прыватных капрысаў, нават больш ці менш слушных, цярпець ня сьмее!

Дык хай-жа ў надыходзячым годзе ўзрастае ў нас здаровае перакананьне, што **асьвета і багацьце** — гэтыя два дзьвігуны дабрабыту — магчымы і ў нас: іх трэба толькі **хацець.** Менш послуху давайма ўсякім здрадным патураньням і абяцанкам, а больш вымагайма ад самых сябе, бо „таннае мяса ядуць ня людзі, а — сабакі“.

**У коопэрацыі сіла!**

# Što možna asiahnuć praz kooperacyju.

(*Z-pryčyny „Miesiaca Biełaruskaj Kooperacyi"*).

Ciažkija varunki žyćcia zmušajuć ludziej šukać ratunku, šukać vychadu z taho tupika, u jaki zahaniaje ich biada.

U hetkich varunkach apynułasia siańnia i naša vioska. Płady ziemlarobskaj pracy abiascenieny ŭ kaniec. Roznyja padatki i inš. nieadkładnaści zmušajuć za ništo pradavać apošniuju skacinu. Pahražaje hoład. Treba šukać vychadu, treba staracca, kab nie zahinuć, i treba heta rabić ułasnymi siłami, bo paratunku nie dačakacca.

Usio čaściej i čaściej vočy ŭsich zvaročvajucca da kooperacyi. I ŭ hetym ničoha dziŭnaha, bo kooperacyja heta-ž i jość toj hramadzki ruch, jaki faktyčna i naradziŭsia z ludzkoj niadoli. Pieršaja praŭdzivaja kooperatyva, kooperatyva ročdelskich tkačoŭ u Anhlii paŭstała nie z bahaćcia, nie z dastatkaŭ, a z ludzkoj biady, z hoładu.

Varunki žyćcia, u jakich u m-ku Ročdel naradziłasia dumka ab kooperacyi, ničym nie adroźnivalisia ad našaje sučasnaści: haspadarčy kryzys, biezraboćcie, vyzysk i niapeŭnaść zaŭtrašniaha dnia panavali tady siarod tkackich rabotnikaŭ.

Pad upłyvam hetaje hality i paŭstała dumka ab samapomačy, ab sarhanizavańni ŭłasnaje kramki. Kali 28 abiazdolenych rabotnikaŭ, adkładvajučy ŭ praciahu bolš hodu pa niekalki hrašoŭ u tydzień, zdoleli raspačać svajo nievialičkaje spačatku pradpryjemstva i dajšli da taho, što jano stałasia prykładam dla ŭsiaho čałaviectva, dyk nie pavinny sumavać i my. Taja samaja kooperacyja, što ŭratavała ročdelskich tkačoŭ, pamoža i nam vyjści na šyrokija prastory lepšaha zaŭtra. Patrebna tolki zrazumieńnie metaŭ i zadačaŭ kooperacyi, jaje karyści i šlachoŭ, i ščyraja i addanaja praca nia tolki adzinak, ale i ŭsiaho hramadzianstva.

Što-ž možna zrabić praz kooperacyju? Šmat što. Niama nivodnaj haliny žyćcia, da jakoj nie mahła-b dasiahnuć kooperacyja i jakoj nie pieratvaryła-b jana na svoj ład. Razhledzim heta koratka.

*Spažyvieckaja kooperacyja.*

Kožny čałaviek źjaŭlajecca spažyŭcom, bo kožny pavinien zdabyvać sabie ježu, vopratku, pamieškańnie i h. d. Pieršabytny čałaviek zdabyvaŭ ŭsio heta sam sabie. U pracesie raźvićcia techniki i padziełu pracy vytvarajecca klasa ludziej (vytvorcy), jakija biarucca vyrablać ŭsio toje, što patrebna spažyŭcu. Jašče dalej, pamiž vytvorcam i spažyŭcom ułazić całaja armija pasiarednikaŭ (handlaroŭ), jakija za hetuju svaju ŭsłuhu zmušajuć płacić sabie stolki, kolki zachočuć; u pahoni-ž za zyskam jany vielmi časta stanoviacca na šlach navat biasčesny: niasumlennaja miera i vaha, fałšavańnie tavaraŭ i h. p. — susim zvyčajnaje ŭ ich źjavišča. I za ŭsio heta pavinien płacić spažyviec.

Kooperacyja, kasujučy pryvatnaha pasia-

---

# Коопэрацыя ў Чэхаславаччыне.

„*Nouze naučila Dalibora hrati housli*"—чэская народная прыказка. (1)

Сучасная Чэхаславаччына складаецца з пяцёх часьцін: Чэхіі, Моравіі, Сілезіі (Цешынскай), Славаччыны і Прыкарпацьця. Усе гэтыя краіны да вайны належылі да Аўстра-Вугрыі. Дзяржаўную незалежнасьць па трыстагадовым нябыцьці (ад 1620 г.) здабылі чэхі ў 1918 г. Паверхня Чэхаславаччыны выносіць 140.000 квадратных кілёмэтраў (Беларусь — больш 300 тысяч), на каторай жыве блізка 15 мільёнаў насельніцтва: чэхаў, славакоў, немцаў, вуграў, украінцаў (на Прыкарпацьці), палякоў. Форма дзяржаўнай улады — дэмократычная рэспубліка. Насельніцтва займаецца земляробствам, але сільна тут разьвіты і промысел.

Сягоньня Чэхаславаччына рахуецца да ліку старонак з высокім роўнем асьветы, багатых і сільна скоопэратызаваных. Паводле апошніх падлічэньняў агульны стан коопэрацыі на тэрыторыі Чэхаславаччыны з канцом мінулага 1932 году прадстаўляецца ў лічбах гэтак:

Агульны лік коопэратываў **17.231**: у Чэхіі — 9.611, на Моравіі і Сілезіі —4.522, на Славаччыне — 2.615 і на Прыкарпацьці — 483. Крэдытовых коопэратываў было 7.701, земляробскіх коопэратываў для закупу і збыту — 1.144, земляробскіх вытворчых — 1.648, іншых земляробскіх — 2.550, рамесьніцкіх — 1.426, спажывецкіх — 1.029, будаўляных — 1.633, іншых — 106.

Паводле нацыянальнай прыналежнасьці: чэскіх і славацкіх — 12.619, нямецкіх – 3.449, вугорскіх — 570, мяшаных — 284, прыкарпацка-украінскіх — 208 і польскіх — 103.

Ня можна аднак думаць, што гэты стан зьявіўся тут сам праз сябе. О, не! Покуль народ чэскі дайшоў да сучаснай магутнасьці, мусіў многа цярпець, шмат цярпліва працаваць, каб перамагчы сваё трыстагадовае паняволеньне. І таму якраз, што гэта барацьба была цяжкой, яна выкавала ў чэскім народзе можна сказаць сталёвую волю **бунтарства проці зла,** так што сяньняшнія чэхі з сапраўднай думай могуць гаварыць аб сабе і гавораць: „*my jsme slovanšti prušaci*" — мы славянскія прусакі.

rednika, kasuje konkurencyju i niasumlenny handal, bo kooperatyva tvorycca nie dla zysku, a vyklučna dla dobrajakasnaha zaspakajeńnia žyćciovych patreb svaich siabroŭ. Adbirajučy ad handlara jaho zyski i zatrymlivajučy ich u svaich rukach, spažyvieckaja kooperacyja tvoryć hramadzki kapitał, praz jaki robić spažyŭca haspadarom rynku i daje jamu sposab zaŭładać u kancy kancoŭ i pracesam vytvorčaści

Pry sučasnaj pahoni za zyskam, vytvorca nia znaje i znać nia choča, kolki i čaho patrebna spažyŭcu i pradukuje tavaraŭ kolki moža. Heta vyklikaje časta pieravytvorčaść, u vyniku čaho paŭstaje zakryćcio fabryk, biezraboćcie i h. p. niaščaści.

Pry kooperatyŭnym ładzie mahčymaść nadvytvorčaści, a tymsamym i kryzysaŭ — vyklučana, bo vyrablacca budzie tolki toje i hetulki, kolki i čaho sarhanizavanaje spažyviectva spatrabuje.

Kooperacyja nia zmušaje nikoha da pryniaćcia svaich formaŭ žyćcia, nie žadaje nijakaj z-boku apieki, ale damahajecca svabody dziejnaści i šyraka adčyniaje svaje dźviery ŭsim tym, chto samachoć prychodzić pad kooperatyŭny štandar samapomačy.

*Ziemlarobskaja kooperacyja.*

Abhavaryŭšy karyści i mety kooperacyi spažyŭcoŭ, pierajdziom zaraz da druhoj haliny našaha žyćcia, da ziemlarobstva.

My biełarusy — narod pieradusim ziemlarobski. Ziemlarobskaja haspadarka — heta padstava našaha dabrabytu.

Pahladzimo, što praz kooperacyju možna zrabić dla viaskovaha dabrabytu.

Kali ŭ ziemlarobstvie minułasia para samavystarčalnaści i pramysłovaja vytvorčaść pačała ŭłazić u viosku, tady i sielanin pačaŭ uciahivacca ŭ tavaraabarot, a jahonaja haspadarka pieratvaryłasia z naturalnaje (samavystarčalnaje) ŭ tavarnuju, bo ŭ joj što raz bolš vyrablałasia tavaraŭ na rynak. Rynak adbiraje adnak u sielanina šmat času, pieraškadžaje jamu ŭ pracy, a hałoŭnaje — sielanin rynku nia znaje i jaho tam ašukivajuć, jak mohuć.

Kooperacyja i tut źjaŭlajecca sielaninu na vyručku.

Pry pomačy kooperatyvaŭ, a asabliva kali jany buduć złučany ŭ Sajuzy, sielanin lepiej i daražej pradaść pradukty svaje haspadarki, bo budzie mieć mahčymaść pradavać ich abo biespasiaredna spažyŭcu praz spažyvieckija kooperatyvy, abo navat sarhanizavać vyvaz ich zahranicu i pry hetym atrymaje ŭsiu canu pradažy, bo atrymaje toje, što raniej zatrymlivali sabie za svaju fatyhu handlary.

Akramia taho, ziemlarobskaja kooperacyja źjaŭlajecca adzinaju mahčymaściu da padniaćcia i palepšańnia ziemlarobskaje haspadarki.

Staryja sposaby haspadaravańnia siahońnia ŭžo nie apłačvajucca. Trochpaloŭka adyjšła ŭžo ŭ historyju. Palovaja haspadarka vymahaje zastasavańnia roznych mašyn, hadaŭlanaja haspadarka vymahaje trymańnia rasovaha žarabca ci buhaja i h. d., a ŭsio heta niedastupna kožnamu sielaninu paasobku. Ale što ciažka adnamu, toje lohka dajecca hramadzie. Pry pomačy kooperatyŭnych T-vaŭ sialanie lohka mohuć kupić i ŭžyvać usio, navat darahija

---

Пазнаць гэта **т в о р ч а е** чэскае бунтарства вельмі карысным было-б і для нас беларусоў, тымбольш што чэска-беларускія суадносіны існуюць не ад сягоньня. 400 з лішнім тадоў таму назад наш беларускі Фр. Скарына пачаў друкаваць беларускую біблію ня гдзе йнакш, як у чэскай „залатой Празе...“ Новачаснае беларускае адраджэньне яшчэ далёка перад сусьветнай вайной бярэ сабе за прыклад тых-жа чэхаў, бо вось аднэй з першых нашых кніжак гэтай пары ёсьць апісаньне „Як багацеюць чэскія сяляне“—кніжка сягоньня ўжо вельмі рэдкая. Чуць толькі канчаецца вайна, як на чэскіх вышэйшых школах зьяўляецца сусім паважны лікам і сілай гурток беларускага студэнства, для якога ня было доступу ў чужыя вышэйшыя школы, пазакладаныя на беларускіх землях... Гэты гурток беларускага студэнства даў нам, можна сказаць, аснову новага пакаленьня беларускіх народных працаўнікоў. Шкода толькі што: ня ўсе быўшыя бел. студэнты ў Чэхаславаччыне вярнуліся працаваць на бацькаўшчыну, ды што і тыя, каторыя вярнуліся, ня ўсе падаюць нашаму народу **творчы** бок чэскай мінуўшчыны і сучаснасьці. Вялікая гэта шкода! Коопэрацыя-ж чэская ў мінуласьці і сучаснасьці бяз сумніву належыць на найбольш творчых праяваў чэскага народнага жыцьця. Дык прыгледзьмося да яе бліжэй!

Коопэрацыя на гістарычна-чэскіх землях: (Чэхія, Моравія, Сілезія) пачалася праяўляцца ў 50—60-тых гадох мін. стагодзьдзя, як сьведамы адпор проці гэтак званага гаспадарчага лібэралізму, каторы бязміласэрна душыў галоўных прадстаўнікоў тагочаснага чэскага грамадзянства: земляробаў, рамесьнікаў і фабрычных работнікаў. Мамэнт гаспадарчы ў разьвіцьцю чэскага коопэратыўнага руху аднак ня быў усім: побач і разам з ім былі тут уплывы **н а ц ы я н а л ь н ы я** і **п а л і т ы ч н ы я**. У коопэрацыі чэхі, як народ у той час яшчэ слабы, бачылі абарону слабых прад насільствам. Такім чынам коопэрацыя для чэхаў мела характар нацыянальна-адраджэнскага руху, была складоваю часткай шырокага высвабаджальнага працэсу, бо паказвала шлях і вяла ўвесь народ да гаспадарчай самабытнасьці, незалежнасьці, каторая была і ёсьць нязбытным варункам самабытнасьці нацыянальнай і палітычнай. Коопэратывы, побач з згоднай культурна-прасьветнай працай,

mašyny, trymać supolna rasovych raspłodnikaŭ, vypisvać biespasiaredna štučnyja pahnoi i h. d. Adnym słovam, kooperacyja daje sielaninu mahčymaść karystacca ŭsimi zdabyčami haspadarčaje viedy i postupu, dastupnymi dahetul tolki dla vialikaj ziamielnaj ułasnaści, praz kooperacyju adčyniajucca šyrokija mahčymaści da sarhanizavańnia supolnych zakupaŭ, pradažy i pierarobki ziemlarobskich praduktaŭ, što daje mahčymaść atrymać lepšuju canu, i zatrymlivać u haspadarcy roznyja adpadki na korm dla skaciny, i na ŭhnajeńnie ziamli. Masłabojni, syravarni, młyny, krachmalni, sušarni i šmat roznych inšych pradpryjemstvaŭ možna sarhanizavać na kooperatyŭnych padstavach, što paasobnym sialanam užo susim nie pad siłu. — Što ŭsio heta nie jakajaś tam fantazija, vidać choć-by z taho, što ŭsio heta daŭno ŭžo zastasavana ŭ Danii, hetaj prykładnaj krainie ziemlarobskaje haspadarki. Ab hetaj staroncy skažam inšym razam bolš. Siahońnia, z niastačy miesca, tolki zaznačym, što Danija, staronka z pryrody vielmi biednaja, dziakujučy starannaj aśviecie, zdabytaj u h. zv. narodnych universytetach Grundtviga i pracavitaści samoha nasielnictva, udačna zastasavała kooperacyju ŭva ŭsie haliny žyćcia i dziela taho siahońnia słužyć prykładam usiamu śvietu. Najdrabniejšyja haspadarki — 1/4 — 5 hektarovyja zajmajucca kooperatyŭnym jajčarstvam i śvinavodztvam: u haspadarcy ŭ siarednim majuć pa 85 kurej, jakija niasuć u hod 170—250 jajok kožnaja i vykarmlivajuć (pieravažna adpadkami z małačarniaŭ) u hod pa 9 śviniej.—Bolšyja danskija haspadarki ad 1882 h. zajmajucca hadavańniem małočnaha bydła i kooperatyŭnym vyrabam na ŭvieś śviet viedamaha danskaha masła. U 1927 h. u Danii było ŭsiaho 2.424.000 karoŭ, z jakich 1.375.000 štuk było ŭ 1.373 kooperatyŭnych małačarniach. Adna karova davała ŭ hod siarednie 2.926 litraŭ małaka. — Da ŭsiaho hetaha dancaŭ pryviała kooperacyja.

Prykład Danii pavinien zacikavić i nas biełarusoŭ. Kooperacyja i pierad nami adčyniaje vialikija mahčymaści. Patrebna tolki rodnaja biełaruskaja aśvieta i arhanizavanaja ŭ svaje biełaruskija sajuzy vytryvałaja kooperatyŭnaja praca. Bo chto nia sieje, toj i nia žnie.

**M. M.**

# Jak heta nazvać?

Cišynia, jakaja zapanavała apošnim časam paśla dzikoj napaści peŭnych „biełaruskich“ čyńnikaŭ na našu kooperatyŭnuju rabotu, akazałasia zdradnaj: heta napaśnickaja i raźbivalnaja praca viadziecca suproć nas dalej, tolki skryta i ŭ novaj formie, z pad ciška. Spakojny ale rašučy adpor, z jakim spatkalisia sezonovyja „dziejačy“ z boku ŭsich ćviaroza dumajučych ludziej, pakazaŭ hetym „dziějačom“ usiu ichnuju słabaść i adarvanaść ad sapraŭdnaha žyćcia.

Nia było rady. Musili hetyja „dziejačy“ adstupić ci lepš — źmianić taktyku z prostaj i adkrytaj — na zdradnuju i zakrytuju. Ale niama ničoha tajnaha, kab nia stałasia jaŭnym, bo voś — jak nam pieradajuć z miascoŭ — adzin z hetkich „staŭpoŭ“ (Žodziški, Vialejskaha pav.), straciŭšy vieru ŭ svaje sob-

---

былі тымі чыньнікамі, каторыя прывялі ўбогі на той час народ чэскі з агульнага гаспадарчага ўпадку да сучаснай сілы і размаху. Гэта творчая праца была так уплянаванай і выконванай, што сам акт народнага асвабаджэньня 28.X.1918 г. быў ужо толькі „звычайным канцэртам*),“ бо „музыкі“ былі ўжо даўно парассаджваны на сваіх мясцох і з прыдзеленых сабе „нотаў“ дасканальна ўмелі йграць свае партыі: акт 28.X.1918 быў толькі загадзя выцьвічаным узмахам дырыжорскай рукі.

Першым чэскім коопэратыўным прабудзіцелям быў лекар—Др. К. Кампэлік (1805—1872), ведамы таксама як выдатны працаўнік усенародны: журналіст і палітык. Др. Кампэлік далёка выперадзіў сваю пару, бо прапагаваў думку парафіяльных касаў ашчаднасьці на асновах узаемапомачы яшчэ раней (1861 г.), як гэта зрабіў немец Раіфайзэн (1864). Задачу гэтакіх касаў ашчаднасьці, будаваных па думцы „што аднаму немагчыма, тое ўсім разам лёгка,“ Кампэлік правільна разумеў, бо бачыў у іх ня толькі спосаб зьбіраньня самых грашэй, але і вучыцеля ці дарадчыка, як гэтыя грошы ў гаспадарцы з добрым скуткам застасаваць. А гэта пры грашовай гаспадарцы мае першарадную вагу.— Як ужо было сказана аднак, Кампэлік далёка перарос сваю пару, сучаснымі яму людзьмі ня быў зразумены і таму ніводная ягоная каса ня была сарганізавана. Заслугі Кампэліка, як гэта часта наагул здараецда, былі ацэнены толькі пасьля ягонай сьмерці, калі ўсе касы арганізаваныя ў Чэхіі паводле зрэформаванай сыстэмы Раіфайзэна былі названы імем Кампэліка — „кампэлічкі.“ Як вялікае значэньне мае крэдытова-ашчадніцкая коопэрацыя ў сучаснай Чэхаславаччыне, відаць хоць-бы з таго, што ў канцы 1931 г. ўсіх земляробскіх коопэратываў было 11.317, з чаго самых толькі „Кампэлічак“ — 5.307 і г. зв. „заложняў“ — 692.

Другім з чаргі чэскім коопэратыўным дзеячом быў Фр. Шімачэк (1834—1885), журналіст і пісьменьнік, які ў 1857 г. даў пачаткі г. званым „народным заложням“ — таксама таварыствам для ашчаднасьці і крэдыту.

Спажывецкая работніцкая коопэрацыя

*), гэтак назвалі чэскую рэвалюцыю нават нямецкія палітыкі, якія захоплівацца ческімі ўдачамі мелі, пеўна-ж, найменш прычын.

skija siły, pačaŭ chłapatliva šukać apory ŭ vilenskim addziele polskaha „Społem!“ - a, a druhomu (Kazłoŭščyna, Słonimski paviet) tak zakruciłasia ŭ hałavie, što nia vytrymaŭ i — ni bolš ni mienš — prosta buchnuŭsia da palakoŭ z prapazycyjaj addać svaje ŭsłuhi dla redahavańnia niejkaj tam byccam koop. časopisi, jakaja-b, naturalna, dalej łaviła rybku ŭ mutnoj vadzie i raźbivała adziny biełaruski kooperatyŭny front... Dy i tut na bankrotach paznalisia i pakazali dźviery. Dobraja heta ilustracyja da našaj stačci ŭ apošnim (13-tym) numary „Samapomačy“.

Na ŭsio heta možam skazać adno: dobra što heta ŭ ž o stałasia. Dla nas heta niespadzieŭkaj nia jość, a ciapier i ŭsie buduć viedać, što ŭsia byccam kooperatyŭnaja praca ludziej z-pad ściahu „Бел. Газэты“ zvodzicca da taho, kab tolki biełaruski kooperatyŭny ruch raźbivać i padčyniać jaho — nie biaz ukrytych metaŭ — arhanizacyjam i sajuzam polskim.

Dla nas pazbycca hetkich ludziej — reč pažadanaja; a ci kamu karysnym być moža ichnaje „supracoŭnictva“ — sprava nia naša.

Pastupak „nac.-vyzvalenčych dziejačoŭ“ niachaj naležnym imiem nazavie kožny naš pavažany čytač — pavodle zasłuhi.

*r.*

*UVAHA! Žviarniecie ŭvahu na niabyvała vyhodnyja varunki padpiski na „Samapomač“ na 1934 h.*

# Nie paŭtarajmo abmyłak!

Adzinaj badaj palohkaj dla kožnaha spoźnienaha ŭ svaim adradžeńni narodu jość mahčymaść karystacca žyćciovymi doślедami narodaŭ idučych u svaim raźvićci napieradzie i vyścierahacca ichnych abmyłak. Heta zdajecca być tak jasnym, tak zrazumiełym, što ŭsiakaje padobnaje napaminańnie pavinna było-b być susim lišnim i niedarečnym.

Hetak, zdavałasia-b, pavinna było-b być, ale hetak u nas biełarusoŭ dahetul prynamsia nia jość.

Majem tut naŭviecie, naturalna, našu b i e ł a r u s k u j u pačynajučuju k o o p e r a c y j u. Što-ž tut bačym? A voś, pieradusim tut jość vialikaje zacikaŭleńnie, možna skazać — masavaść našaha kooperatyŭnaha ruchu, z usimi dobrymi i — hałoŭnaje! — b ł a h i m i bakami. Heta apošniaje prajaŭlajecca ŭ formie niebiaśpiečnaj niearhanizavanaści, charakternaj zrešta dla kožnaha hramadzianstva, nia žyŭšaha dahetul žyćciom arhanizavanym. U nas biełarusoŭ heta ryska charaktaru vybivajecca moža z asablivaj siłaj dziela taho, što my — prynajmasia! — dahetul nadbytkam hetaha zrazumieńnia nikoli nie hrašyli. Dziela taho našy ludzi siahońnia kali i arhanizujucca ŭ svaje nizavyja kooperatyvy, dyk dumajuć, što zrabili ŭžo ŭsio i što dalej ničoha nia treba. Tymčasam heta złosny i niebiaśpiečny abman, bo takaja nizavaja kooperatyva, heta tolki **pačatak**

чэская радзілася бязіменна: першую гэткую коопэратыву заснавалі і вялі самі работнікі ужо ў 1861 г.*) Пазьней толькі зьяўляецца грунтоўны знавец гэтага роду коопэрацыі ў асобе Д-ра Ф. Л. Х л е б о р а д а (1839—1911), праўніка і эканаміста. Гэты від чэскай коопэрацыі (спажывецкай) спачатку паказаўся найшчасьлівейшым, бо вельмі шпарка пашыраўся і ўжо ў 1872 г. налічвалася 438 гэткіх коопэратываў. Разгон гэты трываў аднак коратка. За пару гадоў заснаваныя коопэратывы пачалі хутка і адна за другой упадаць, і ў 80-тых гадох мінулага стагодзьдзя заніклі амаль сусім. Прычынай гэтага, як усюды і заўсёды пры пачатках коопэратыўнай працы бывае, былі: нястача коопэратыўнай сьведамасьці ў сяброў коопэратываў і нястача фахова-прыгатаваных працаўнікоў да кіраваньня цэлым рухам.

Пад гэту пару ўзмагліся ўжо ў чэхаў нацыянальная сьведамасьць і культурна-асьветны ровень на гэтульні, што зразумелі вышэйназваныя прычыны свае няўдачы на коопэратыўным полі. І коопэратыўную нясьведамасьць агулу сяброў і нефаховасьць самых працаўнікоў ня можна датуль перамагчы, пакуль кожная коопэратыва будзе жыць сваім толькі адасобленым жыцьцём, пакуль ўсе пасобныя коопэратывы ня злучацца ў свае саюзы; бо праўдзівая коопэрацыя вымагае сарганізаванасьці ня толькі ад сяброў фізычных (паасобных людзей), але і праўных (самых арганізацыяў гэтых людзей).

Зразумеўшы гэта, першымі прыступілі да працы ашчадніцка-крэдытовыя касы, якія ўжо 12 красавіка 1896 г. заснавалі свой саюз „*Ustredni jednota českych hospodarskych společenstev v kralovsstvi Ceskem se sidlem v Praze,*“ каторы паслужыў зародкам найбольшага сягоньня ня толькі земляробскага, але і агульнага чэхаславацкага т-ва „Цэнтрокоопэратыву:“ уваходзяць у яго з канцом 1931 г. 12 коопэратыўных саюзаў і 11 гандлёвых цэнтраляў. „Цэнтрокоопэратыў“ лучыць у сабе чэскія, славацкія і нямецкія коопэратывы, маемасьць ягоная у тым-жа часе (канец 1931) выносіла 163 міл. чэскіх крон, а ўклады сарганізаваных у „Ц-ве“ касаў выносілі 2 мільярды і 40 мільёнаў чэскіх карон. І ўсё разьвілося з сапраўднага гарчычнага зярняці, бо-ж першапачатную „Ustredni Jednotu“ заснавалі 19 убогіх вясковых касаў.

*(далей будзе).* *А. К*

*) Паводле апошніх досьледаў Э. Шкатулы спажывецкая коопэраъыя „Оуль“ у в. Тмань (Чэхія) снавала ўжо ў 1854 г.

sapraŭdnaha arhanizavanaha žyćcia, jaki nie siahońnia dyk zaŭtra, a napeŭna pavalicca, kali nia budzie paviazany z inšymi sabie padobnymi pačatkavymi kamorkami arhanizavanaha žyćcia. U kooperacyi spraŭdžyvajecca heta z asablivaj vyraznaściu, bo-ž kooperacyja heta **paviazańnie** z saboj nia tolki paasobnych ludziej, ale i **samych arhanizacyjaŭ**.

Druhoj, nia mienš piakučaj spravaj jość **fachovaje kiraŭnictva** ŭsiakaj kooperatyvy zaraz ad samaha pačatku. Nia volna addavacca samaabmanu, što na kiravańnie kooperatyvaj „chopić haspadarskaha rozumu". Nie, sto razoŭ nie! A aščadnaść zroblenaja na niefachovym kiraŭnictvie, heta najbolšaja raškidanaść i pieršy hvozd u trunu kooperatyvy-niabožčyka. Staniecca heta napeŭna, navat choć-by časova kooperatyva pakazvała bolšy ci mienšy razmach. Prykładaŭ na ŭsio heta poŭna ŭsiudy*) i ŭsiudy pryčyna hetych sumnych kancoŭ vynikaje z niastačy ŭ siabroŭ kooperatyvy kooperatyŭnaha ŭśviedamleńnia.

Vysnavak z usiaho hetaha dla našych kooperatyvaŭ pavinien być jasny. Usie siabry kooperatyvaŭ, a pieradusim siabry ichnych upravaŭ i nadzorčych radaŭ pavinny pryłažyć usie starańni, kab nie stajać z svajoj kooperatyvaj z-boku, ale łučycca z inšymi; pry tym **łučycca** nia z čužymi **kooperatyvami**, a z svaimi, **biełaruskimi**. Nia majem my, praŭda, jšče svajho sajuzu, ale musim jaho sarhanizavać. A pakul heta staniecca, łučymosia kala svaje adzinaje placoŭki — redakcyi **„Samapomačy"**, z katoraj užo supracoŭničajuć usie pieradavyja i śviedamyja našy kooperatyvy, vypisujmo „Samapomač" dla svaich siabroŭ, davajmo ŭ jaje viestki ab svaim žyćci — dobrym i horšym — vynasimo ŭrešcie na ahulnych schodach pastanovy, kab usie statutovyja i ŭstavovyja abviestki našych kooperatyvaŭ byli davany ŭ našu-ž „Samapomač", dy damahajmosia hetaha ŭ sudzie. Lišnija košty z usiaho hetaha nia vyniknuć, a hroš vydany pry hetym, jaki dahetul išoŭ u čužyja nam centrali, budzie najlepšaj strachoŭkaj prad stratami.

Što-ž uznoŭ datyča fachovaha kiraŭnictva ŭ kooperatyvach, asabliva novazasnoŭvanych, dyk i tut pomač lohkaja, bo hetaj fachovaści siahońnia možna kožnamu lohka navučycca, zapisvajučysia na Zavočny Kooperatyŭny Kurs pry red. „Samapomačy", jakija tak ułožany, što kožny, chto tolki ŭmieje čytać, pisać i rachavać, zmoža za paru miesiacaŭ, nikudy nia vyjaždžajučy, nahetulki paznać kooperacyju, kab mahčy paśla ŭ joj pracavać. Navuka na kursie **biaspłatnaja** i kursant apłačvaje tolki vydatki na pryhatavańnie kursu (košty druku, papiera, farba, pošta). Prahramu kursaŭ i ŭsiakija informacyi ab navučańni padaje redakcyja „Samapomačy", tolki na adkaz treba dałučyć da piśma marku.

Chto jak chto, ale našy kooperatyvy musiać u pieršuju čarhu dapamahčy svaim kramnikam, kab hety kurs abaviazkava prajšli. Apłacicca im heta zaŭsiody.

Adnym słovam, viadzimo šyrokuju uśviedamlajučuju kooperatyŭnuju pracu, nie zabyvajmosia ab patrebie łučycca z kooperatyvami inšymi i zdabyvajmo fachovuju kooperatyŭnuju aśvietu! Na hetych staŭboch staić siańnia vialiki budynak kooperacyi na cełym śviecie i dziela niastačy hetych staŭboŭ valiłasia kooperacyja ŭ narodaŭ u minuŭščynie.

Dyk nie paŭtarajmo abmyłak!

**M. S.**

*) Čytajcie i razvažajcie ŭ siańniašniaj „Samapomačy" staćciu „Кооперацыя ў Чэхаславаччыне"—red.

# Kooperatyŭnyja naviny.

**U spravie Zavočnaha Kooperatyŭnaha Kursu pry red. „Samapomačy".** Vysyłka lekcyi Kursu z techničnych pryčyn pierasuniena na pieršyja dni m-ca studnia 1934 h. Dalšyja zapisy na Kurs i ŭsiakija informacyi ab im daje redakcyja „Samapomačy". — Sumlenna pierapracavany Kurs kooperacyi heta najlepšaja strachoŭka prad stratami ŭ kooperatyvach i najpeŭniešaja mahčymaść pracy dla našaj intelihiencyi. Dyk nia traćcie času i jšče siahońnia zapiščeciesia na Kurs, prysyłajučy na košty vydańnia miesiačnuju składku 4 zł. i 1 zł. upisnoha na cely kurs.

**„Miesiac Biełaruskaj Kooperacyi"** ad 1.XII.33. da 1.1.34. i dalej vyznačany pa toje, kab sama-silna pašyryć asnaŭnyja viedamaści ab kooperacyi. Kožny śviedamy biełarus musić da hetaha pryłažyć svaju ruku i ŭ svajoj vioscy, miastečku, vakolicy sarhanizavać supolnaje pračytańnie biełaruskich časopisaŭ i knižak ab kooperacyi. Kali na hetkich zborkach schodziacca ŭ chacie ludzi ŭzajemna znajomyja, dyk nijakich dazvołaŭ nia treba. Chto nia maje ŭ siabie adpavednych drukaŭ (biełaruskich knižak i hazet ab kooperacyi), toj chaj nieadkładna napiša ab hetym u red. „Samapomačy" i pryšle 1 zł. na ček. konto P.K.O. Nr. 180.485 (inž. Klimoviča): atrymaje ŭsio patrebnaje da naładžańnia referatu ab kooperacyi.

**Konkretnyja zadačy „Miesiaca Biełaruskaj Kooperacyi".** 1. Uzmacavać kooperatyvy isnujučyja: kasavać daŭhi, uzmocnić lojalnaść;

2. Pašyryć znajomaść kooperacyi tam, dzie jaje jšče niama;

3. Žbirać padpisku na „Samapomač", asabliva na dziesiatkavyja kamplekty (za 10 ekzemplaraŭ 12 załatovak na cely hod);

4. Prapahavać patrebu fachovaj kooperatyŭnaj viedy: zaachvočyvać zapisacca na Zavočnyja Kooperatyŭnyja Kursy pry red. „Samapomačy";

5. Na arhanizacyjnych schodach novych kooperatyvaŭ vynosić pastanovu, kab usie abviestki kooperatyvy, vymahanyja ŭstavaj (zakonam) i statutam davalisia tolki ŭ „Samapomačy";

6. Biełaruskija kooperatyvy ŭžo isnujučyja pavinny na najbližejšym ahulnym schodzie taksama vynieści pastanovu, što abviestki na dalej buduć davać u „Samapomačy";

7. Damahacca ŭ sudoch, kab pastanovy ahulnych schodaŭ ab vybary časopisaŭ da abviestak nia byli pieramienivany, a kali niejdzie nieśta padobnaje staniecca,— zaraz-ža dakładna ab hetym paviedamlać red. „Samapomačy";

8. Ab usiakaj kooperatyŭnaj pracy dakładna infarmavać „Samapomač".

# Сельская гаспадарка.

## Перасаджваньне старых дрэў.

Позная восень і раньняя зіма — гэта пара, калі можна перасаджваць нават колькінаццацігадовыя дрэвы. Да гэткага перасаджваньня аднак вельмі памагае наступнае прыгатаваньне:

За пару тыдняў прад перасадкай, кругом дрэва, якое мае быць перасаджаным, капаецца роў, каторы пасьля ўзноў закопываецца. Глыбка гэтага рава йдзе так далёка, як далёка сягаюць карэньні, а лінія самога рава йдзе больш-менш па лініі кароны дрэва. Робіцца гэты роў на тое, каб расьцятыя пры капаньні рава карэньні пусьцілі з сябе больш малых карэньчыкаў, якія памагаюць перасаджанаму на новае месца дрэву хутчэй „прыняцца“. Дрэва, якое прад тым часьцей перасаджвалася, мае гэткіх карэньчыкаў звычайна больш, чымся дрэва, якое прад тым бяззьменна расло на адным месцы і дзеля таго можа абысьціся і бяз гэткага папярэдняга абкопываньня ровам. Другім прыгатаваньнем — канешным у кожным выпадку — ёсьць стараннае выкапаньне ямы на новым становішчы. Разьмер гэтай ямы — шырка і асабліва глыбка (лепш прытчэй як глыбей!) — павінен быць добра вымераны да патрэбаў перасаджванага дрэва: аканчальна гэта можна бачыць толькі выкапаўшы само дрэва і паводле яго яма папраўляецца.

А цяпер самае перасаджваньне. Адкапываецца прад тым ужо закапаны роў; а калі гэткі роў ня быў наперад капаны, дык капаецца роў новы і пасьля само дрэва асьцярожна падкопываецца (увага на карэньні!) і падважваецца каламі датуль, пакуль ня выймецца разам з зямлёй на загадзя прыгатаваны блят (зьбітыя дошкі, дзьверы, або стол), на каторым і пераносіцца на новае месца.

Пры ўсей гэтай рабоце трэба старацца, каб якнайменш абсыпалася зямлі з карэньняў. Пры перасаджваньні дрэва ўзімку гэты страх адпадае, бо зямля тады бывае больш менш прамерзлай і таму не абсыпаецца. Больш хлопату з гэтым увосені. У гэтым апошнім выпадку памагаюць сабе людзі тым, што ў меру адкопываньня карэньняў дрэва, іх абвязваюць лыкам, салявымі мяшкамі і ўсім іншым, каб толькі не дапусьціць да шкоднага абсыпаньня з карэньняў зямлі ці лепш — да абрываньня з гэтай зямлёй вельмі цэнных гэтак званых валасковых карэньчыкаў.

Так ці йнакш перасаджанае дрэва на новым месцы старанна ўстанаўляецца і закопываецца. Калі пры выкопываньні гэтага дрэва з „старога“ месца было шмат абрэзана карэньняў, дык тады трэба адпаведна скараціць і карону перасаджанага дрэва; рабіць гэта трэба, пакуль дрэва „сьпіць“, г. зн. пакуль у ім не пачнецца кругаварот сокаў.

*Ж. Г.*

## Хатні спосаб вырабляньня трусовых аўчынак.

Што сягоньня ў гаспадарцы агульная нястача гатовага граша — аб гэтым ведама хіба кожнаму і ў гэтым не заўсяды віна самога гаспадара. Але віной не да дараваньня ёсьць, што чалавек наш недаядаючы, недасыпаючы сьціскае грош да грошыка на тое толькі, каб яго пасьля ў прыступе свайго ўласнага дуру, а найчасьцей—на наляганьні і сьлёзы неразумных падросткаў: дачок і сыноў, аддаваць за нічога нявартыя „футры“, у каторых усёроўна мерзьне, бо-ж яны толькі „на рыбім кажуху“: каўнерык з здохлага ката і такое-ж абшыцьцё рукава — гэта толькі абман, гэта кпіны над людзкой нясьведамасьцю. А тымчасам за незраўнана танейшы грош можна самому сабе прыгатаваць вельмі цёплую і выгодную кажушную падшыўку. Найлепш-бы было гэту падшыўку прыгатаваць з аўчынак авечых. Гэта аднак сягоньня ня ўсюды і ня кожнаму магчыма. Далёка лягчэй кожнаму ўздабыцца на трусоў, якія вымагаюць толькі крыху старанььняў, хутка множацца і растуць і пры ўмелым абходжаньні даюць стараннаму гаспадару і смашнае мяса і добрыя аўчынкі. Аб прыгатаўленьні гэтых апошніх да ўжытку мы тут і пагаворым:

Найлепшую аўчынку даюць гэтак званыя трусы шыншылі (трывалкія ў нашэньні, густы волас), пасьля — сінія венскія трусы і розныя гатункі трусоў белых. Найгусьцейшы і найтрывалейшы волас (ня лінае і ня выціраецца) маюць аўчынкі з трусоў забітых у пару гэт. зв. дасьпеласьці аўчынкі, гэта знача паміж 1-шым сьнежнем і 1-шым сакавіком.

Першай чыннасьцю дзеля атрыманьня трусовай аўчынкі ёсьць стараннае яе здыманьне. Найлепш здымаецца аўчынка з труса сьвежа забітага, пакуль ён яшчэ не скалавацее (нацёпла). Вырабляецца скурка таксама найлепш насьвежа. Але каб не расьцярушвацца ў працы, можна добра зьнятыя аўчынкі трусовыя адкладаць і вырабляць іх пасьля за адным заходам. Вырабляньне аўчынкі мае на мэце: самой скурцы надаць патрэбную мяккасьць і трывалкасьць, а з поўсьці выбраць непатрэбны тук (клустасьць) і надаць ёй полыск.

Вырабляньне скуркі пачынаецца ад таго, што сьвежа зьнятая аўчынка сушыцца ў правеўным месцы (не над печай і не на сонцы!), напятая, шэрсьцю ў сярэдзіну, на драціну, скручаную ў форме шпількі-аграфкі. Замест гэтага можна сушыць аўчынку напятую цьвякамі на дошцы, поўсьцю ўніз (да дошкі). Дзень прад вырабляньнем скрапліваюцца аўчынкі з сярэдзіны моцна соланай вадой і складваюцца па дзьве, поўсьцю наверх. На другі

дзень прыгатаўляецца рашчына з разовай хлебнай мукі і заквашваецца як на хлеб. Да гэтай рашчыны дадаецца па лыжцы кухоннай солі і па шчыпатцы (на канцы нажа) алуну на адну звычайна вялікую скурку. Гэтак вымешанай рашчынай сільна націраюцца нутраныя бакі аўчынак, якія пасьля нацёртымі бакамі ўзноў складаюцца да сябе і памяшчаюцца на чатыры-пяць дзён у цёплым месцы. Пасьля гэтага рашчына старанна здымаецца а самі аўчынкі сушацца. Добра вырабленая аўчынка павінна быць мяккая і выцягвацца ў руццэ, як флянэля. Даводзіцца да гэтага стану аўчынка сталым выцягваньнем ва ўсе бакі. Вострым нажам пасьля выскробваюцца астаткі прыкарэўшага цеста і прыросшага мяса, пакуль скурка ня станецца сусім гладкай.

Вырабляньне самой поўсьці адбываецца так, што гэта поўсьць перасыпаецца мукой з белай крэйды, або чыстым пяском, нагрэтым да такой меры, каб у ім толькі можна было ўтрымаць руку. Пераціраньне і пасьля вытрэпываньне аўчынкі крэйдай ці пяском трэба паўтарыць некалькі разоў, аж пакуль поўсьць не пазбавіцца туку і не набудзе жаданага полыску.

**Гарбар.**

# Жывёла падчас пажару.

Агульна вядомым ёсьць, што жывёла сусім ня хоча пакідаць гаручага хлява, а будучы з яго сілай выведзеная, няраз вяртаецца назад і згарае. Паходзіць гэта з пярэпалаху. Дзеля таго, на выпадак няшчасьця пажару, покуль ня вывядзіцца з хлявоў жывёла, трэба памагчымасьці сьцерагчыся лішняга крыку і непатрэбнай беганіны. Выводзіць жывёлу найлепш патрапіць тая асоба, якая цэлы час каля гэтай жывёлы ходзіць: жывёла пазнае яе па голасе і хутчэй яе слухае. Дальшыя захады павінны кіравацца наступнымі правіламі.

Ня менш як агонь, шкодны жывёле дым. Дзеля гэтага, пакуль жывёла знаходзіцца ў гаручым будынку, трэба насамперш паадчыняць вокны і дзьверы, каб мог выходзіць дым. Калі жывёла трымаецца ў хляве на ўвязі, дык усю зараз спускаць ня можна, бо саб'ецца ў кучу і ня дасца вывесьці.

Пры выводжваньні коняў, калі на гэта пазваляе час, накідаецца ім на вочы і вушы салявы мяшок ці нешта падобнае. Часам добра ўдаецца выводзіць коняў і скаціну задам.

Сьвіні ад пажару проста шалеюць і іх прыходзіцца лавіць паасобку за заднюю нагу і вухо і выкідаць.

Авечкі часта ўдаецца выгнаць найлягчэй тым, што ловіцца і выводзіцца стаднік-баран: за ім авечкі йдуць самі звычайна даволі лёгка.

Куры, качкі і наагул хатняя птушка траціць звычайна ўвесь курыны „розум“ і ад агню ня толькі не ўцякае, але проста на яго сама ляціць. Дзеля гэтага пры ратаваньні напр. курэй няма іншай рады, як лавіць іх паасобку, ссаджываць у мех і выносіць у бясьпечнае месца.

У пчаліных вульлёх трэба перадусім пазатыкаць лёткі, каб у сярэдзіну не даставаўся дым. Аднёсшы вулей у бясьпечнае месца трэба лёткі ўзноў паадчыняць, бо пчолы маглі-б пазадушвацца.

Яшчэ раз прыпамінаецца, каб выведзеную з пажару жывёлу адпаведна забясьпечыць, бо можа вярнуцца ў агонь і згінуць!

Другая ўвага датыча пажарнікаў, каб пакуль ня выведзена жывёла, тушылі агонь праз вокны, пакідаючы дзьверы вольнымі.

Калі-б так сталася, што агонь пачынаўся ад дзьвярэй, дык няма іншай рады, як выламываць (выпіловываць, вырубаць) выхад у сьцяне тымчасам агнём не занятай,

*а. к.*

# Цэны у Вільні

**З збажжова - таварнай і льнярскай біржы ў Вільні з дн. 6.XII.1933 г.**

*Цэны за 100 кілё сярэдняй якасьці.*

| | |
|---|---|
| Жыта I, станд. (адборнае) | 15.75—16.00 |
| Жыта II, станд. | —14.85 |
| Пшаніца зьбіраная | —21.00 |
| Ячмень на пансак | 13.50—13.75 |
| Авёс станд. | 14.00 |
| Авёс замочаны (з пад дожджу) | 12.50—13.00 |
| Мука пшонная, 0000 А. люкс. | 33.75—34.00 |
| Мука жытняя да 55 проц. | 25.00 |
| Мука жытняя да 65 проц. | —21.00 |
| Мука жытняя сітковая | 17.00—17.50 |
| Мука жытняя разовая | —17.25 |
| Мука разовая шатраваная | 18.00—18.50 |
| Вотрубы жытнія | 10.50—11.00 |
| Вотрубы пшанічныя грубыя | 12.50—13.00 |
| Вотрубы пшонныя ценькія | 11.00—11.50 |
| Вотрубы ячменныя | 9.00—9.25 |
| Крупы грэчневыя $^1/_1$ паленыя, кілё | 0.43 |
| Крупы грэчневыя $^1/_2$ паленыя, „ | 0.40 |
| Крупы грэчневыя $^1/_1$ белыя „ | 0.40 |
| Пансак № 2 100 „ | 24.50 |
| Пансак № 3 „ | 30.00 |
| Крупы аўсяныя „ | 45.— |
| Грэчка зьбіраная | 18.00 |
| Бульба сталовая „ | 6—7.00 |
| Сена 100 „ | 6—6.50 |
| Салома „ | 4.50 - 5.00 |
| Семя льняное 90 проц. | 35.50 - 36.00 |

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ.

Bielaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

# Абвесткі судовых ухвалаў.

**З прычыны абмежаваньня польскімі законамі правоў беларускай мовы, зьмяшчаем урадавыя абвесткі ў польскай мове.**

## УПІСАНЬНЕ Ў РЭЕСТР КООПЭРАТЫВАЎ.

Do Rejestru Spółdzielni Sądu Okręgowego w Nowogródku, Tomu II, pod Nr. 26, wciągnięto następujący wpis:

„Spółdzielnia Spożywców „SAMAPOMACZ" w Wielkiej-Lipie z odpowiedzialnością udziałami. Siedzibą spółdzielni jest wieś Wielka-Lipa, gminy snowskiej, pow. nieświeskiego. Członkowie odpowiadają za zobowiązania spółdzielni zadeklarowanemi udziałami.

Celem spółdzielni jest zaspokajanie wspólnemi siłami materjalnych i kulturalnych potrzeb swoich członków, a w działalności swej dążyć będzie do zorganizowania produkcji i wymiany w mysl interesów spożywców. Dla osiągnięcia tego celu spółdzielnia będzie organizować i prowadzić wszelkiego rodzaju zakłady gospodarcze, oraz podejmować działalność społeczno-kulturalną. W razach wyjątkowych Walne Zgromadzenie może zezwolić na sprzedaż towarów i niecżłonkom.

Udział wynosi 12 zł. przyczem obowiązkowy wniosek płatny gotówką przy zapisaniu się do spółdzielni stanowi 3 zł., pozostała suma 9 zł. winna być wpłacona w ciągu roku. Członek może deklarować najwięcej 10 udziałów.

Zarząd spółdzielni stanowią: 1) Wacław Chudnicki zam. we wsi Bojary, 2) Marek Sawko zam. we wsi Wielka-Lipa i 3) Aleksander Wieremiejczyk zam. we wsi Wielka-Lipa, wszyscy gminy snowskiej, pow. nieswieśkiego.

Czas trwania spółdzielni jest nieograniczony. Pismo przeznaczone do ogłoszeń: czasopismo „Samapomacz" w Wilnie. Rok obrachunkowy — kalendarzowy. Trzech członków zarządu. Oświadczenia woli w imieniu spółdzielni składają dwaj członkowie zarządu. Kontrakty w sprawach kupna, zastawu lub najmu nieruchomości wymagają zatwierdzenia przez Radę Nadzorczą. Oznaczenie najwyższej sumy zadłużenia spółdzielni i postanowienia o sprzedaży nieruchomości należą do kompetencji Walnego Zgromadzenia.

Przepisy o likwidacji — w statucie.

Do Rejestru Spółdzielni Sądu Okręgowego w Nowogródku, Tomu II, pod Nr. 33, w dniu 8 listopada 1931 roku wciągnięto następujący wpis:

„Spółdzielnia Spożywców „POUNIA" z odpowiedzialnością udziałami w Bronosowie. Siedzibą spółdzielni jest wieś Bronosowo, gminy Turzec, pow. stołpeckiego. Za zobowiązania spółdzielni członkowie odpowiadają zadeklarowanemi udziałami.

Celem spółdzielni jest zaspokajanie wspólnemi siłami materjalnych i kulturalnych potrzeb swoich członków, a w działalności swej dążyć będzie do zorganizowania produkcji i wymiany w myśl interesów spożywców. Dla osiągnięcia celu określonego w artykule poprzednim spółdzielnia będzie organizować i prowadzić wszelkiego rodzaju zakłady gospodarcze, oraz podejmować działalność społeczno-kulturalną.

Udział wynosi 10 złotych, w czem: obowiązkowy wniosek płatny gotówką przy zapisaniu się do spółdzielni stanowi 5 złotych, w ciągu dwóch miesięcy członek wpłaca pozostałe 5 złotych.

Zarząd spółdzielni stanowią: 1) Aleksander Koniuch, 2) Aleksy Sinica i 3) Wiera Dybalska, zamieszkali wszyscy we wsi Bronosowie, gminy Turzec, pow. stołpeckiego.

Czas trwania spółdzielni jest nieograniczony. Pismo przeznaczone do ogłoszeń spółdzielni — czasopismo „Samapomacz" w Wilnie. Rok obrachunkowy — kalendarzowy. Trzech członków zarządu. Oświadczenie woli w imieniu spółdzielni składają dwaj członkowie zarządu. Zawierane przez zarząd w imieniu spółdzielni kontrakty w sprawach kupna, zastawu lub najmu nieruchomości wymagają zatwierdzenia przez Radę Nadzorczą. Do kompetencji Walnego Zgromadzenia należy oznaczenie najwyższej sumy zadłużenia spółdzielni i postanowienia o sprzedaży nieruchomości.

Przepisy o likwidacji — w statucie.

---

**Лён:** за 1.000 кілё з дастаўкай да станцыі:

| | |
|---|---|
| Лён трапаны Валожын. | 1.169.10—1.201.57 |
| „ „ Друя . . | 974.25—1.039 20 |
| „ „ Трабы . . | 1.201.57—1.234 20 |
| Кудзеля Гародзейская . | 985.07 1.017.54 |
| Лён часаны . . . . . | 2.013.45—2.078.40 |

Агульны абарот — 250 тонаў.
(у тоне 1.000 кілё).

**Грошы:** За папяровы даляр — 5 зл. 60 гр., за рубель золатам — 4 зл. 70 гр.

---



## Наша пошта.

Язэп Гапановіч—Календары з сьценкамі: Вам і брату высланы. Атрымалі? Ня зможаце нам памагчы пры „Завочных Кооп. Курсах"?

І. Юрчык і Ул. Пярэська ў Налэнчаве пісьмы атрыманы, друкі і кніжкі высланы. Пішэце!

А. Курганскі — пісьмо атрымалі. Дужа цешымся, што Вы удачна і незалежна працуеце і правідлова ацэньваеце коопэрацыю. Спадзяёмся што наладзіце ў сябе і ваколіцах „Месяц Бел. Коопэрацыі." Пашырайце „Самапомач."

Усе беларускія коопэратывы павінны ў першую чаргу пастарацца выпісаць комплект (10 экз.) „Самапомачы" для сваіх сяброў.

